# КАЛІНКА

НЕЗАЛЕЖНАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ Г. КАЛІНКАВІЧЫ. СТУДЗЕНЬ 2013 Г.

**ЦЫЦЭРОН: “СВАБОДА - ГЭТА ЎДЗЕЛ ВА ЎЛАДЗЕ”.**

# ЗИМА ОПЯТЬ ПОСТАВИЛА “НЕУД”

Народная мудрость гласит, что в Беларуси два постоянно повторяющихся стихийных бедствия - урожай и зима. Надо сказать, что шутка эта не перестаёт быть актуальной и по сей день. И это при том, что вот уже почти два десятка лет у руля государства находится режим господина Лукашенко, который неустанно повторяет мантру про созданную им “эффективную систему управления”, основной задачей которой якобы является “оперативное и своевременное решение проблем простого человека”. Зима 2012-2013 гг. в очередной раз показала жителям Калинкович, что власть и народ живут в параллельных реальностях, которые между собой имеют очень мало общего. Ведь от красивых слов лукашенковской попаганды по БТ и в “совбелиях” разного калибра (от республиканских до районных) зарплаты не повысятся, а начальники добрее и внимательнее не станут.

Декабрь 2012 г. выдался довольно снежным. В некотрые дни выпадало до половины месячной нормы осадков. Только убирать его никто и не думал. Чистились только дороги, в результате чего тротуары оказывались завалены снежными отвалами, которые просто не давали людям пройти. Складывается впечатление, что в Калинковичах больше заботятся о машинах, чем о людях. Вызывает вопросы и сам способ уборки снега с проезжей части. Иногда это делалось просто вараварским способом, не обращая внимания на границы дороги. В результате снег убирали, разрушая во многих местах новые бордюры, установленные минувшим летом. ***(Працяг на 2-ой стар.).***



*Тротуары оказывались завалены снежными отвалами, которые просто не давали людям пройти*

# Што думаюць людзі



**Напрыканцы 2012 года А. Лукашэнка зрабіў гучную заяву пра планы скарачэння бюракратычнага апарата (на 25%). Пры гэтым ён лічыць “відавочна недастатковым” памер заробкаў чыноўнікаў. Таму скарачэння фінансавання вертыкалі не прадугледжваецца. Пры гэтым Беларусь ужо не першы год займае лідарскіе пазіцыі ў Еўропе па колькасці міністэрстваў, а таксама па велічыні выдаткаў (амаль 50% прыбытковаай часткі дзяржбюджэту!!!) на “агульнадзяржаўную дзейнасць”, іншымі словамі, на ўтрыманне шматлікай колькасці органаў дзяржаўнага кіравання: ад адміністрацыі прэзідэнта да раённых выканкамаў. Такога няма ні ў адной еўрапейскай краіне.**

***НУЖНА ЛИ В БЕЛАРУСИ РЕФОРМА ГОСУПРАВЛЕНИЯ И СОКРАЩЕНИЕ ГОСАПАРАТА?***

***НЕОБХОДИМО ЛИ ПОВЫШАТЬ УРОВЕНЬ ДОХОДОВ БЕЛОРУССКИХ ЧИНОВНИКОВ?***

**МЫ ЗВЯРНУЛІСЯ З ГЭТЫМІ ПЫТАННЯМІ ДА ЖЫХАРОЎ КАЛІНКАВІЧ.**

## Людмила Петровна, учитель, 43 года.

*“Если верить Лукашенко, то в Беларуси чиновники - чуть ли не с протянутой рукой ходят. Почему же они так держаться за свои кресла, если им так мало платят? Да ещё и сынков своих в исполком пристраивают?! Сказки всё это, очередная порция развесистой лапши на наши уши. Никто в это давно не верит. Мы ведь видим всё своими глазами, видим их роскошные котеджи, дорогие иномарки, костюмы ценой в 10 миллионов. А у многих дети за границей учаться. И это всё за зарплату в 1000 у.е.?*

***(Працяг на 2-ой стар.)***

**Иван, рабочий, 37 лет.**

*“Просто смешно слушать эти росказни. Особенно на фоне информации о том, что, например, у товарища Мясниковича (председатель правительства - зам. ред.) часики почти за 40 тысяч евро. Это ж сколько лет при его официальной зарплате нужно работать, чтобы позволить себе такую дорогую покупку? А секрет прост - они получают от Лукашенко доплаты чёрным налом. За верную службу, так сказать, за то, что на выборах “правильно” считают. А добавьте сюда служебные квартиры, спецлечение и т.д. Грабят они народ по полной программе!”*

**Надежда Петровна , пенсионерка, 60 лет.**

*“Сокращать, сокращать и ещё раз сокращать! У нас же сейчас столько чиновников на душу населения, сколько нигде в мире, наверное, нет. Посудите сами. Раньше и горисполком, и райисполком, и комитет компартии размещались в одном небольшом здании. А сейчас один райисполком - и что? На всех места не хватает! И у каждого компьютер за несколько миллионов, кондиционеры по всему зданию. А как человеку нужно какой-нибудь вопрос решить, так помощи не дождёшься, умереть можно, по кабинетам мотаясь!”*

**Николай, предприниматель, 40 лет.**

*“Это хорошо проработанный пиар, за которым как всегда, ничего не стоит. Ведь сокращать госаппарат для Лукашенко - это самому себе могилу рыть. Ведь его режим держится на 2 “китах”: многочисленных силовых структурах и президентской вертикали, которая, как мафиозный спрут, опутала своими щупальцами всю страну. Так что, Лукашенко будет воевать с теми, кто обеспечивает его власть и личную неприкосновенность?”*

**Александр, гастарбайтер, 32 года.**

*“Не хочу даже говорить про этого так называемого президента. Он всю страну использует, как личную собственность. Скоро у людей паспорта забирать будут, чтобы не смогли уехать, а вы про такие мелочи спрашиваете...”*

## “Некотрые тротуары в городе вообще не чистились - на улице Энгельса, Куйбышева и многих других”.

Во дворах многоквартирных домов вообще творилось нечто неописуемое. Бедные дворники старались вовсю, расчищая тротуары вдоль и площадки возле подъездов. Но ведь эта просто капля в море. Да и заставлять женщин махать лопатами в XXI веке - это просто издевательство. Понятно, что трактором тротуары почистичь просто невозможно, но неужели у города нет денег, чтобы закупить несколько ручных компактных снегоуборочных машин? Они управляются одним человеком и за 20-30 минут могут убрать территорию, которую дворник очищал бы пару часов. Ведь неубранный вовремя снег (да ещё и собранный в одном месте) во время оттепели начинает активно таять и превращается в непроходимое грязное месиво.

Что это такое мог прочувствать на себе любой пешеход, например, 27 декабря 2012 г., проходя отрезок улицы 50 лет октября от магазина “Дары от Зари” до остановки “201-го” автобуса. Промокшая насковозь обувь в такой ситуации была только цветочками. Ведь, пробираясь по тротуару, заваленному настоящими сугробами снега, покрытого сверху ледяной коркой, можно было запросто свернуть шею или получить перелом под самый Новый год.

Некотрые тротуары в городе вообще не чистились - на улице Энгельса, Куйбышева и многих других. После нескольких резких смен температуры с минуса до плюса и наооборот пешеходные дорожки оказались покрыты толстым слоем льда, передвигаться по которым даже молодому здоровому человеку нужно было с особой осторожностью. Один неосмотрительный шаг и - как результат - падение, ушибы, синяки и шишки. Что уж тут говорить о людях преклонного возраста или имеющих проблемы с опорно-двигательным аппаратом.

Вот и получается, что слаженно и организованно решить даже такую насущную проблему, как уборка снега, лукашенковская система не в состоянии. В этом году зима в Калинковичах в очередной раз поставила власти “неуд”. Зиму мы отменить не в состоянии, может, пора задуматься, о смене власти?

***Зинаида Лезвенная***

ЦИФРЫ НОМЕРА. ЦИФРЫ НОМЕРА. ЦИФРЫ НОМЕРА.

## НА 76% ПОДОРОЖАЛИ В БЕЛАРУСИ ЛЕКАРСТВА (ПО ДАННЫМ ОФИЦИАЛЬНОЙ СТАТИСТИКИ) ЗА ПРОШЕДШИЙ 2012 ГОД.

**ВОТ ЕСЛИ БЫ ЗАРПЛАТЫ И ПЕНСИИ РОСЛИ ТАКИМИ ТЕМПАМИ!**

# ДОМ, ЯКІ ПАБУДАВАЎ ВІКТАР ПІЛІПЕЦ

Дом, дзе жыла сям'я былога старшыні гомельскага гарвыканкама Віктара Піліпца, зараз стаіць спусцелы. Следчыя арыштавалі маёмасць разам з яе гаспадаром. Віктар Піліпец збудаваў сабе дом у гістарычным цэнтры Гомеля, па вуліцы Пралетарскай, 36. Рэзідэнцыя былога кіраўніка гомельскай вертыкалі стаіць па суседстве з маёнткам колішніх гарадскіх гаспадароў - палацам Румянцавых-Паскевічаў, на адлегласці менш за 900 метраў. Адтуль рукой падаць і да набярэжнай Сожа — менш за 300 метраў.

Як паведамляюць мясцовыя жыхары, на месцы цяперашняга ўчастка Піліпца раней стаяў будынак інтэрната для медыкаў. Калі ў 2009 годзе Піліпец прыйшоў да ўлады, інтэрнат знаходзіўся ў заняпадзе: медыкаў даўно рассялілі, а мясцовыя ўжо пачалі расцягваць будынак на цэглу. На гэтай пляцоўцы Піліпец і вырашыў збудаваць сваё радавое гняздо.

Самыя блізкія мэравы суседзі жывуць за 100 метраў праз дарогу.


*Дом арыштаванага старшыні гомельскага гарвыканкама Віктара Піліпца зараз стаіць спусцелы. Яго пабудавалі ў рэкордныя тэрміны ў цэнтры Гомеля.*

Адзін з іх не захацеў свяціць сваё імя, але з імпэтам паглыбіўся ва ўспаміны: *"Гэты дом пабудавалі ў рэкордныя тэрміны - за год ці меней. Участак агарадзілі, інтэрнат знеслі. На пашпарце аб'екта было напісана, што гэта жылы дом, замоўнік - Піліпец, а будавала УКБ (упраўленне камунальнага будаўніцтва) гарвыканкама. Хутка пабудавалі, бо ў іх грошы ёсць: і матэрыял, і тэхніка на руках. А мы са сваіх капеек будуемся, ніяк дах не накрыем. Вось так".*

Шыку і бляску ў знешнім выглядзе мэравага жытла не бачна. Усё прыстойна і з густам. Аднак тое, што жыллё не з танных, у вочы кідаецца. Будынак у шырыню мае 7 вокнаў, у даўжыню - 5. Агульная плошча ўчастка, паводле ацэнкі суседзяў, больш за 10 сотак.

Перад участкам свежа заасфальтаваная паркоўка для аўто гасцей, на слупе чамусьці вісіць дарожны знак "Рух транспарту забаронены". Агароджа дабротная, з чырвонай цэглы, шырынёй сантыметраў 40. На аўтаматычных варотах вострыя пікі з бронзы. Ва ўнутраным і знешнім двары папрацавалі рукі ландшафтнага дызайнера. У двары стаіць каваная садовая мэбля. Кошт адной лавы перавышае месячны заробак старшыні гарвыканкама.Колькі атрымліваў мэр Віктар Піліпец, можна меркаваць па заробках яго калег. Так, напрыклад, старшыня Жлобінскага райвыканкама Леанід Апанасюк, які балатаваўся ў парламент і апублікаваў свой гадавы прыбытак, у 2011 годзе зарабіў 80 мільёнаў рублёў - гэта па 6,6 мільёнаў у месяц.

Суседства з высокім начальствам было бадай непрыкметным для простых гамельчукоў. *"Яны ж начальства, паводзілі сябе спакойна. Сын тут мэраў жыў, дачка, бабуля - мо яго маці ці жонкі. Нармальна так жылі. Музыку гучную не ўключалі, вечарынкі не*

**(Працяг на 4-ай стар.)**


*Вароты аздабляюць па-мастацку каваныя пікі. Праз іх бачны шырокі ганак з калонамі.*

Фота: Даша Сапранецкая
Графіка: Таццяна Бублікава


*Частка двара: каваная лава, прыступкі з чырвонага граніту і дызайнерскі ландшафт...*


Від з левага боку. Летняя тэраса з дахам, якая атуляе будынак ззаду.


Пад'езд да дома: свежазаасфальтаваная паркоўка ды знак, што забараняе рух транспартных сродкаў.

*ладзілі. Паспелі два гады пажыць, а зараз куды падзеліся, не ведаю...”*, - расказвае сусед.

Сям'я Віктара Піліпца з'ехала адсюль яшчэ да арышту галавы сям'і. Арыштавалі яго ў верасні, а суседзі кажуць, што ў жніўні тут ужо нікога не было. Зараз сюды наведваюцца толькі следчыя ды спецыялісты па ацэнцы маёмасці. *“Часам сюды прыязджаюць машыны нейкія, штосьці робяць, заходзяць унутр... Ацэньваюць, мабыць. Колькі гэта ўсё каштуе, я не ведаю. Але каб набыць тут участак, трэба многа грошай — цэнтр горада ж. Адна зямля тут колькі каштуе”*, - кажа былы сусед Піліпца.

***Даведка:***

Віктар Піліпец утрымліваецца пад вартай з 19 верасня 2012 года. Следчы камітэт арыштаваў яго па крымінальнай справе, заведзенай на кіраўнікоў таго самага УКБ Гомельскага гарвыканкама. Былы старшыня гомельскага гарвыканкама абвінавачваецца ў перавышэнні ўлады і службовых паўнамоцтваў па ч. 3 арт. 426 КК Беларусі.

Лічыцца, што Піліпец замешаны ў махінацыях з кватэрамі, якія будаваліся з прыцягненнем бюджэтных сродкаў для грамадзян, жыллё якіх падлягае зносу. Папярэдне ўстаноўлена, што 25 кватэр з парушэннем заканадаўства набылі работнікі УКБ, іх сваякі ды знаёмыя па кошце $20 тыс. замест $50 тыс.

***Таццяна Бублікава.***
**(Фота Дашы Сапранецкай)**
***“Тут і Цяпер”.***

# ЛІКВІДАЦЫЯ... ЛІКВІДАТАРАЎ

З 1 студзення 2013 беларускія ліквідатары аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі пазбавіліся афіцыйнага статусу. Усіх грамадзянаў, якія ўдзельнічалі ў мінімізацыі наступстваў тэхнагеннай катастрофы, панізілі да статусу “пацярпелых”. Для атрымання пасведчання пацярпелага ад радыяцыйных аварый ліквідатар павінен быў да 31 снежня 2012 года здаць пасведчанне, выдадзенае яшчэ ў Савецкім Саюзе і якое, дарэчы, лічылася бестэрміновым.

Вайсковы ліквідатар з Калінкавіч Васіль Сіліверст лічыць прыніжэннем такое стаўленне да ягоных калегаў: *“Дзяржава змяніла статус удзельнікаў ліквідацыі аварыі на ЧАЭС на статус пацярпелых. Чаму гэта так зрабілі? Справа ў тым, што шмат ліквідатараў у нас вельмі хворых. І калі не ва ўсіх ліквідатараў дакументы ў парадку, то трэба даказваць свой статус у судзе ў Мінску. А гэта вельмі накладна для кішэні.*




*Тым больш, пасведчанне ліквідатара ў Беларусі не прыносіць сур'ёзных ільготаў. Таму многія не абараняюцца, страчваючы свой статус. А дзяржаве гэта і патрэбна, каб было менш ліквідатараў. Яны збіраюцца будаваць АЭС у Астраўцы, а пры такой колькасці ліквідатараў-інвалідаў гэта дзікунства”.*

Кандыдат тэхнічных навук і ўдзельнік руху “Навукоўцы за без'ядравую Беларусь” Юрый Варонежцаў таксама лічыць, што дзяржава наўмысна скарачае колькасць ліквідатараў: *“Краіна, якая збіраецца развіваць атамную энергетыку амаль з нуля, не можа сабе дазволіць нагадваць пра тое, што ад атамнай катастрофы пацярпела і працягвае пакутваць вялікая частка насельніцтва краіны. Акрамя таго, нашая так званая сацыяльная дзяржава не моцна дапамагае ўсім катэгорыям сацыяльна аслабленых грамадзянаў. І ліквідатары тут не выключэнне”.*

Паводле Юрыя Варонежцава, многія гомельскія ліквідатары страцілі надзею дамагчыся прызнання сваіх заслугаў у сябе на Радзіме. Гамельчукі сталі атрымліваць расійскае грамадзянства, рэгіструючыся ў прыпамежных Клінцах альбо Навазыбкаве. Гэта тлумачыцца тым, што ў Расіі ліквідатары маюць шырокі спектр ільгот і сацыяльных гарантый, якіх беларускія ліквідатары былі адмыслова пазбаўленыя за час панавання рэжыму Лукашэнкі.

**Мікола Бянько, “Радыё Рацыя”.**

# У РАЙ НА НАРОДНАЙ ШЫІ

Уся гісторыя чалавецтва сведчыць, што паляпшэнне дабрабыту было для людзей важнай задачай. Але ў эпоху глабальных палітычных катаклізмаў і маральнага заняпаду пагоня за багаццем, за суперкамфортам набыла гіпертрафіраваны характар. Акрамя таго, што моцныя карпарацыі, банкі ў мэтах далейшага абагачэння дыктуюць свае ўмовы, яшчэ і любы індывід, які дарваўся да ўлады, выкарыстоўвае службовае становішча ў асабістых мэтах.

Расійскі публіцыст В. Бугаслаўская дае ацэнку стану дзяржаў постсавецкай прасторы: *«Сегодняшняя ситуация характеризуется тотальной коррупцией, бесстыдством властей, чудовищным расслоением общества, невозможностью заработать умом и трудолюбием…»* Непамерная хцівасць, раскоша, гламур сучасных «эліт» (ад прадстаўнікоў шоў-бізнесу да рэлігійных дзеячаў і кіраўнікоў дзяржаў), карупцыйныя скандалы ва ўсіх эшалонах улады выклікаюць у народа ўжо не зайздрасць, а нянавісць і агіду.

У Германіі або Францыі, калі чыноўнік «садраў» чужую дысертацыю, узяў не па правілах крэдыт, улёг у амаральшчыну, у любошчы, яму кажуць: «Стоп! Шуруй у адстаўку!» А як жа, ты — публічная асоба, на цябе глядзіць грамадства!.. Кожны грамадзянін на Захадзе можа зрабіць запыт любому прадстаўніку ўлады: «А скажы, шаноўны, на якія шышы пабудаваў дом або купіў «ягуар», калі твой аклад складае такую-та суму?» Той абавязкова дае праўдзівае тлумачэнне або сыходзіць з пасады з наступнай разборкай.

А паглядзіце, што робіцца ў нас. Чаму кожны чалавек, які атрымлівае пасаду, з першага дня кідаецца павялічваць рахункі і нерухомасць? Скажам, які-небудзь брэсцкі міліцыянер атрымаў новае прызначэнне, перабраўся ў сталіцу, яшчэ не паспеў засяліцца з сям'ёй у шыкоўную кватэру, а ўжо за горадам «рабы» выгрукваюць яму палац.

Чаму ў Беларусі няма адкрытай справаздачнасці дзяржаўных службоўцаў за прыбыткі і набыткі?.. Ды таму, што ў гэтым абсалютна не зацікаўлены кіраўнікі, іх атачэнне, родзічы, сябры, якія маюць салідныя капіталы і папаўняюць іх, а народу падсоўваюць пад нос «фількіну грамату»... Цікавая прыкмета рэчаіснасці тая, што мярзотнікі, якія прарываюцца да ўлады і грошай, хочуць мець рай на зямлі і на нябёсах. Каб адкупіцца за свае грахі, бандыты, якія загубілі не адну душу, жулікі, што нахабна рабуюць народ, даюць грошы на ўзвядзенне храмаў і атрымліваюць за гэта царкоўныя ордэны. А рэлігійныя іерархі, не сумняваючыся, бяруць свецкія ўзнагароды з рук, якія заплямлены не толькі тлушчам ад шашлыкоў.

Уяўленне пра зямны рай у кожнага чалавека рознае. Напрыклад, для большасці насельніцтва Паўночнай Карэі яно заключана ў тым, каб мець ваваўняную куртку і штаны, гумовікі, місачку рысу, а вяршыня шчасця — веласіпед. Затое КНДР мае самую вялікую армію, ракеты, якія нясуць ядзерныя зарады, выпускае аўтаматаў Калашнікава больш, чым Расія.



*Народ у Беларусі атрымлівае толькі крошкі з прэзідэнцкага стала.*

У аўтарытарнай Беларусі мерка дабрабыту вышэйшая — чарка і скварка, прыймальныя адзенне і абутак, не зусім дабітая іншамарка. На гэтым узроўні большасць насельніцтва завісла надоўга. Меншая частка людзей арыентуецца на развіццё сучаснай вытворчасці, дэмакратычных інстытутаў, а большая захоўвае архаічныя формы гаспадарання і сацыяльна-грамадскія паводзіны.

У нас поўнасцю адсутнічае кантроль за дзеяннямі улады, таму што няма развітай грамадзянскай супольнасці, самастойнага парламента, баявітых прафсаюзаў, незалежных судоў, свабодных СМІ. Такая сітуацыя дазваляе красці, падштурхоўвае да гэтага чыноўнікаў, сілавікоў, алігархаў. Многія з іх сапраўды лічаць сябе элітай, абраннікамі, якім трэба жыць лепш за іншых, бо на ўсіх дабра не хопіць.

Што тычыцца прапаганды, то яна метадычна ўбівае ў галовы беларусаў думку, што пры аўтарытарным рэжыме яны знаходзяцца, як у раі, а навокал у свеце — голад, галеча, аварыі, прыродныя катаклізмы. З гэтай прычыны згадваецца анекдот савецкага часу: «Говорит Москва. Передаем последние известия. В Нью-Йорке бастуют работники городского транспорта. В Лондоне при посадке разбился авиалайнер. В Японии произошло землетрясение, погибли тысячи людей. В Москве полдень». Падобны «бясконцы поўдзень» стаіць у беларускім радыёэфіры, на тэлеэкране, на старонках газет. Рэгулярная апрацоўка насельніцтва не праходзіць бясследна. Дурнаватая фанабэрыстасць у адносінах да іншага свету, манія ўласнай велічы на пустым месцы сёння ўласціва не толькі кіраўнікам…

На Захадзе пабудаваны не рай, а нармальнае жыццё, калі зарплаты або пенсіі хапае на ўсе патрэбы. Па вялікім рахунку разумныя еўрапейцы або амерыканцы жывуць не дзеля грошай, яны любяць сваю працу, і грошы служаць для іх ніяк не мэтай, а толькі сродкам існавання. У Беларусі і Расіі не толькі раю, але і паляпшэння сітуацыі не прадбачыцца.

Публіцыст Р. Тульчынскі слушна сцвярджае: *«Открылась не просто степень и глубина осознанного цинизма — степень и глубина опасности нынешней власти. Как для общества, так и для нее самой. Она как вирус или раковая клетка, питаясь здоровыми клетками и тканями общества, разрушает общественный организм, саму среду своего существования».*

Ну і якія адносіны могуць быць да такой улады ў любога нармальнага чалавека, які кіруецца ў жыцці здаровым сэнсам, не страціў розум, памяць і сумленне?

***Сяргей Законнікаў ("СН Плюс").***
***Арыгінальная назва - "Як трапіць у рай?"***

# В БЕЛАРУСИ ЗАКОНОДАТЕЛЬНО ЗАКРЕПЛЕН ПРИНУДИТЕЛЬНЫЙ ТРУД

Скандальное указание президента Беларуси Александра Лукашенко о “закреплении трудящихся на своих рабочих местах” выполнено.

За полученную руководством предприятий господдержку рассчитываться принудительным трудом будут рабочие - они не смогут уволиться без разрешения нанимателя. Последнее слово в конфликте рабочего и директора президентский декрет оставляет не суду, а губернатору. Декрет Лукашенко, как и прогнозировали на стадии обсуждения идеи эксперты, закрепил обязательную контрактную систему найма для работников тех предприятий деревообработки, на которых ведется модернизация с привлечением средств господдержки. Контракт будет заключаться на весь срок реализации инвестиционного проекта. Возможность уволиться с предприятия сохраняется - “по решению нанимателя”.

Интересно, что в случае недовольства ситуацией декрет предлагает работнику жаловаться не в суд, а местному губернатору. Именно за ним будет последнее слово в конфликте рабочего и директора.

Однако эти факторы, которые, несомненно, будут способствовать развитию коррупции, не самое интересное ноу-хау белорусских законодателей. Куда более интересно то, что рабочие, которые все же смогут уволиться, должны будут вернуть родному предприятию часть заработной платы, полученной в период работы по кабальному контракту. Правда, в декрете эта часть, которая подлежит возврату, называется доплатой, которая “не включается в состав заработной платы”. Если у рабочего нет денег, чтобы оплатить свою свободу, он будет возвращен на свое рабочее место под контролем представителей органов внутренних дел для того, чтобы это “долг” отработать.



*Терпение белорусов поистине не знает пределов...*

Тот факт, что зарплата на предприятиях деревообработки составляет порядка 130 долл., дает все основания полагать, что так называемые доплаты рабочие не смогут копить на случай непредвиденного увольнения, а это значит, что работа под конвоем вполне реальная перспектива.

Как и сама идея привязать трудящихся к их рабочим местам, декрет Лукашенко вызвал однозначно негативную реакцию и общественности, и экспертов.

*“Подобного документа новейшая история Беларуси еще не знала - одним росчерком пера перечеркнуты Трудовой кодекс, Конституция, права человека”*, - оценил документ председатель независимого профсоюза РЭП Геннадий Федынич. Эксперт обращает внимание на то, что новые нормы ставят рабочих в уязвимую позицию и делают их зависимыми даже от настроения директора, поскольку его право - увольнять или не увольнять - не регламентировано.

*“Вместо положенной оплаты труда рабочий человек получает незаконные подачки, которые не регулируются ни одним законом”,* - говорит он о доплатах к зарплате. Экономисты обращают внимание на то, что размер доплат также оставлен на усмотрение нанимателя, а источником определены собственные средства предприятия. Это значит, что у нищих предприятий их может и вовсе не оказаться, и рабочие в этом случае попадут в рабство за копейки. Мы сделали блиц-опрос потенциальных жертв нового законодательства, все опрошенные единодушны в своих оценках. *“Мне, допустим, 20 лет. Я устроился на деревообрабатывающий комбинат и не имею права уволиться и устроиться куда-то в другое место. Так что, я до пенсии должен за 1,5 миллиона работать? А если мне предлагают работу за 4 миллиона, я что, не могу туда уйти? Несправедливо”*, - рассуждает молодой представитель деревообрабатывающей отрасли.

*“Убегают из-за зарплат, зарплаты маленькие, в этом и проблема. Молодые люди приходят, получают такую зарплату и уходят”,* - рассказывают рабочие. Многие также говорят о том, что в бедах предприятий виновато руководство, а не простые рабочие. Неэффективность производств - следствие плохого менеджмента.

Местные эксперты уже вспомнили ситуацию в советское время в колхозах - людям просто не выдавали паспорта, и они не могли покинуть свою деревню, где работали за трудодни.

Нововведение белорусских законодателей получило и международную оценку. Директор Департамента по правам человека Международной конфедерации профсоюзов Стивен Бенедикт назвал декрет Лукашенко *“прямым и абсолютным нарушением самых фундаментальных принципов и прав трудящихся”*. По его мнению, документ нарушает конвенцию

(Продолжение на 7-ой стр.)

Международной организации труда (МОТ). *“С течением времени Лукашенко и его правительство вновь попросят обосновать, что они делают, и в какой-то момент через Международную организацию труда будут сделаны дополнительные шаги, чтобы организовать дополнительное давление на них, включая экономические санкции. Похоже, что он именно этого добивается”*, - цитируют СМИ Бенедикта.

Местные независимые профсоюзы ждут международной оценки и соответствующего давления. *“Мы уже проинформировали МОТ”*, - сообщил председатель Белорусского конгресса демократических профсоюзов Александр Ярошук. Это вызов международному сообществу, уверен он. По словам Ярошука, декрет нарушает не только Конституцию, которая гарантирует право на занятость, на свободу выбора рабочего места, но Конвенцию МОТ № 105 о запрете принудительного труда, которую ратифицировала Республика Беларусь, Конвенцию МОТ № 122 о занятости. Эксперт полагает, что молчаливое принятие норм о принудительном труде в одной деревообрабатывающей отрасли даст властям основание думать, что этот опыт можно расширить и на другие предприятия и отрасли.

***По материалам “Независимой газеты”.***

# ГАЛОЎНЫ ЮБІЛЕЙ ГОДА

## 175 год таму нарадзіўся *КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ* (2.02.1838.-22.03.1864.)

Радзіма нашага нацыянальнага героя - вёска Мастаўляны Гарадзенскага павета (цяпер у Беластоцкім ваяводстве Польшчы). Паходзіў Канстанцін Вікенці Каліноўскі з сям’і дробнамаянтковага шляхціча. Першапачатковую адукацыю будучы рэвалюцыянер атрымаў у Свіслацкай павятовай навучальні. Вялікі ўплыў на яго меў старэйшы брат Віктар, які вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, вывучаў па даручэнні Віленскай археалагічнай камісіі старадаўныя беларускія рукапісы.

У 1856 годзе Кастусь паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, які скончыў праз чатыры гады з навуковай ступенню кандыдата права. Ужо ў студэнцтве ён рашуча ступіў на сцяжыну палітычнай барацьбы з самаўладдзем, разам з братам належаў да рэвалюцыйнага гуртка Зыгмунта Серакоўскага і Яраслава Дамброўскага. На Бацькаўшчыну Каліноўскі вярнуўся ў 1861 годзе перакананым змагаром супроць царызму.

Кастусь стаўся стваральнікам і душой нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Горадні, разам з паплечнікамі ездзіў па навакольных вёсках і мястэчках, дзе вёў прапаганду сярод сялянаў, рыхтуючы іх да паўстання. Гэтай мэце служыла і нелегальная беларуская газета «Мужыцкая праўда», якую надзелены яскравым публіцыстычным і літаратурным талентам Каліноўскі пачаў выдаваць у 1862 годзе супольна з Феліксам Ражанскім, Станіславам Сангіным і Валерам Урублеўскім. Аўтар і рэдактар бальшыні нумароў газеты, Кастусь сам браў удзел у яе пашырэнні: развозіў па вёсках, раскідваў на дарогах. Ён імкнуўся развеяць ілюзіі сялянаў, паказаць, што царскі маніфест аб скасаванні прыгоннага права - гэта чарговае ашуканства працоўнага люду. Кастусь заклікаў змагацца за тое, каб прыйшоў час, калі «ніколі ніякай нікому мужыкі паншчыны служыць не будуць і ніякага ў казну аброку плаціць, і народ наш будзе вольны і шчаслівы».



*Кастусь Каліноўскі (фота А.Банольдзі)*

Пасля загаду аб ягоным арышце Каліноўскі дзейнічаў пад канспірацыйнымі прозвішчамі Макарэвіч, Чарнецкі, Хамовіч, Хамуціус... Увосень 1862-га ён узначаліў Літоўскі правінцыйны камітэт, што рыхтаваў вызвольнае паўстанне ў Беларусі. Кастусь стаяў на чале найбольш паслядоўных рэвалюцыянераў, якіх у адрозненне ад ліberalаў («белых») называлі «чырвонымі». Яны выступалі супроць саслоўнай няроўнасці, за дэмакратычную рэспубліку, за перадачу зямлі сялянам. Каліноўскі лічыў, што народы Беларусі, Летувы і Ўкраіны павінны самі вырашыць пытанне пра сваю незалежнасць. «Белыя» ж лічылі галоўнаю задачай аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года.

Пасля пачатку паўстання «белым» удалося адхіліць Каліноўскага і ягоных прыхільнікаў ад кіраўніцтва. Ён стаў паўстанцкім камісарам Гарадзенскай губерні, здолеў прыцягнуць да ўдзелу ва ўзброенай барацьбе шмат сялянаў. Улетку 1863 года Кастусь зноў узяў у свае рукі кіраўніцтва віленскім паўстанцкім цэнтрам, што часам называлі «чырвоным жондам».

*(Заканчэнне на 8-ай стар.)*

Паўстанне ў Беларусі ўжо задыхалася. Адзін з інсургентаў - паўстанцкі камісар Магілеўскай губерні Вітаўт Парфіяновіч - на допыце выдаў Каліноўскага. У лютым 1864 года «дыктатар паўстання», што жыў у Вільні ў Святаянскіх мурах (побач з саборам святога Яна) пад імем Ігната Вітажэнца, трапіў у рукі царскіх жандараў. У часе следства і суда Кастусь трымаўся надзвычай мужна. На прапанову аблегчыць свой лёс, назваўшы некаторыя адрасы і імёны, ён адказаў: «Калі грамадская шчырасць з'яўляецца дабрачыннасцю, то шпіёнства апаганьвае чалавека. Усведамленне гонару, уласнае годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляюць мне ісці па іншым шляху».




Царскі ваенна-палявы суд вынес пастанову: пакараць правадыра інсургентаў смерцю на шыбеніцы. Страта адбылася 10 (22) сакавіка 1864 года на віленскай гандлёвай плошчы Лукішкі. Слухаючы перад смерцю прысуд, у якім кіраўнік паўстанцаў быў названы «дворянином Калиновским», ён выгукнуў: «У нас няма дваранаў, у нас усе роўныя!»

З царскага астрога Кастусь перадаў на волю свой напісаны па-беларуску і звернуты непасрэдна да народа запавет - «Ліст з-пад шыбеніцы»:

*«Браты мае, мужыкі родныя! З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці і, можа, раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, но не жаль згінуць за тваю праўду.*

*Прымі, народзе, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно як бы з таго свету толькі для дабра твайго напісана.*

*Няма, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тады ён толькі можа быць у радзе, жыць у дастатках і тады толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, бо, збагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой шчыра палюбіць. Но як дзень з ночай не ходзяць разам, так не ідзе разам навука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць, не для дабра, но на пагібель нашу.*

*Для таго-то, народзе, як толькі калі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б'юцца за праўду і свабоду, тады і ты не ставайся ззаду, но, ухапіўшы за што зможаш, за касу, сякеру, і цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе!*

*Твой слуга Яська-гаспадар з-пад Вільні».*

У турме, перад смерцю, напісаны і адзіны вядомы сёння верш Кастуся Каліноўскага, прысвечаны яго каханай:

*Марыська чарнаброва, галубка мая,*
*Дзе ж падзелася шчасце і ясна доля твая?*
*Усё прайшло, як бы не бывала,*
*Адна страшна горыч у грудзях застала...*

Але адначасова гэта і зварот да ўсяго беларускага народа:

*Бывай здаровы, мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе*
*І часамі спамяні пра Яську свайго,*
*Што загінуў за праўду для дабра твайго.*

**Уладзімір Арлоў**
**З кнігі У.Арлова, Г.Сагановіча**
**“Сто вякоў беларускай гісторы”.**

# ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ!

**Вы трымаеце ў руках апошні нумар “Калінкі”. З-за недахопу фінансавых сродкаў мы вымушаныя на няпэўны час прыпыніць сваю працу. Спадзяемся на хуткае вяртанне. А пакуль - шукаце цікавыя матэрыялы ў сеціве, на сайце** gomelcivil.org

**Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выражэнне іх; гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных граніц. *(Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. Арт. 19).***

“Калінка”. Незалежнае інфармацыйнае выданне.

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад - 299 асобнікаў. Выходзіць 1 раз на месяц.

*Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест і факты, пададзеныя ў матэрыялах. Змяшчаюцца матэрыялы, дасланыя на электронную пошту і з інтэрнэта.*

**Будзьце свабоднымі і жывіце без страху.**